HELIX

DC COMICS

7 • MAR 98
$2.50 US
$3.50 CAN

WARREN ELLIS • DARICK ROBERTSON • RODNEY RAMOS

SUGGESTED FOR MATURE READERS






# Хлопец – гэта вірус

WARREN ELLIS writes and DARICK ROBERTSON pencils

## BOYFRIEND IS A VIRUS

RODNEY RAMOS, inker

NATHAN EYRING, color and separations CLEM ROBINS, letterer
CLIFF CHIANG, assistant editor STUART MOORE, editor

TRANSMETROPOLITAN created by WARREN ELLIS and DARICK ROBERTSON



TRANSMETROPOLITAN 7. March, 1998. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to TRANSMETROPOLITAN, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only.  Printed on recyclable paper. Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company  Афармленне: Сяргей Козыраў. Пераклад: Артур Барадачоў


ЦЬЯНГ КІНУЎ МЯНЕ.
ЗАДАВОЛЕНЫ?


ДЫ НЯ ВЕЛЬМІ.
І НАВАТ НЯ БУДУ НАГАДВАЦЬ, ШТО ПАПЯРЭДЖВАЎ.
А І НЯ ТРЭБА БЫЛО. УСЁ РАЗУМЕЛА...


РАЗУМЕЛА І **ЎСЁ Ж ТАКІ**, ЗАКАХАЛАСЯ.
ГЭТА НІБЫ БОЛЬКУ СКАЛУПВАЦЬ. ВЕДАЕШ, ШТО НЕЛЬГА, І ШТО ШРАМ ЗАСТАНЕЦЦА, ВОСЬ ТОЛЬКІ АДАРВАЦЦА НЯ МОЖАШ.
І ХАЙ БЫ СПРАВА Ў СЕКСЕ БЫЛА, РАЗУМЕЕШ? ГЭТА Я Б ЯКНЕБУДЗЬ ЗДОЛЕЛА. НЕ ЎПЕРШЫНЮ.


АЛЕ ЁН ЖА МЯНЕ СЛУХАЎ, ЦЭЛУЮ НОЧ БАЛБАТАЦЬ ДАЗВАЛЯЎ І ЛІШНЯГА НЕ ЗАПЫТВАЎ.
ДАВАЎ ВЫГАВАРЫЦЦА.


А ЗАРАЗ ВОСЬ АДВЯЗАЎСЯ АД МЯНЕ. І... І НАВАТ НЕ ДЗЕЛЯ ІНШАЙ ЖАНЧЫНЫ, ТАМУ І ЗЛОСЦЬ НЯМА НА КІМ САРВАЦЬ.
КІНУЎ МЯНЕ, КАБ ПАЙСЦІ САМАЗАБІЦЦА.





ШТО?




АКАЗВАЕЦЦА, ЦЬЯНГ МАРЫЎ ЗАЛЕЗЦІ Ў СУПОЛКУ ПЫЛАВІКАЎ І ЗБІРАЎ ГРОШЫ НА **ПЕРАСАДКУ.**
СЁННЯ ЯГО **ЗАПАМПУЮЦЬ.**
МІНУЛАЙ НОЧЧУ ЁН КІНУЎ МЯНЕ, А ЗАРАЗ МАЕ НАМЕР СКОНЧЫЦЬ З САБОЙ.




ШЭНАН, СУІЦЫД І **ЗАПАМПОЎКА** - ДЗВЕ КАПЕЦ ЯКІЯ ВЯЛІКІЯ РОЗНІЦЫ.
ЯК Я ЗРАЗУМЕЛА, ЯГО РОЗУМ СКОРМЯЦЬ КОДЛУ МІКРАВОБРАЗНЫХ МАШЫНАК, А ПОТЫМ СПАЛЯЦЬ ЦЕЛА.
ПА МНЕ, ДЫК ВЕЛЬМІ ПАДОБНА НА СМЕРЦЬ.


А ЁН ЦЯБЕ НА ПЕРАСАДКУ ЗАПРАШАЎ?
НЕ.
PIECE OF SHIT!


Я ЛІЧУ, ТАБЕ Б ВАРТА БЫЛО ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ПЕРАСАД-КУ.
ДЗВЕ ЧАРКІ БУЛЬБЯНОГА ШНАПСУ. ДО-БРА АСТУДЗІ.
А БОЖУХ-НА, ГЭТА МНЕ ЯШЧЭ НАВО-ШТА?


ПА-ПЕРШАЕ, ПЕРА-КАНАЕШСЯ, ШТО ЁН НЕ ПАМІРАЕ.
ПА-ДРУГОЕ, ДАСІ, НА-РЭШЦЕ, ЗАРУБЦАВАЦЦА КРЫВАВАЙ КУКСЕ ВАША-ГА РАМАНА.
ПА-ТРЭЦЯЕ, ТЫ, ЯК Я РАЗУМЕЮ, НІКОЛІ ЗАПАМПОЎКУ НЯ БАЧЫЛА, А НА ГЭТУ СПРАВУ НІКОМУ НЯ ШКОДЗІЦЬ ПАГЛЯ-ДЗЕЦЬ.


ПА-ЧАЦВЁРТАЕ, ТАМУ ШТО СЛУ-ПОК НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ БУДЗЕШ ПІСАЦЬ ТЫ.


Я ІМ СКАЖУ, МАЁ ІМЯ З ШАПЦЫ ВЫКІНУЦЬ, ТВАЁ ЎСТАВЯЦЬ. І ГАНАРАР САБЕ ЗАБЯРЭШ.
...А ПІСАЦЬ ТЫ БУДЗЕШ ПРА ЗАПАМПОЎКУ СВАЙ-ГО МІЛЕНЬКАГА СЯБРА.
Э...

У ЯКУЮ СУПОЛКУ ЁН УСТУПАЕ, НАЗВУ ВЕДАЕШ?

«ВОСЕНЬСКАЯ ЗАЛЕВА».

ЦУДОЎНЕНЬКА. А ТО МАБЫЦЬ, ДУМАЮ, У ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ НОВУЮ, ЗАСНАВАНУЮ ПАСЛЯ МАЙГО АД'ЕЗДУ. «ЗАЛЕВА» – АДНА СА СТАРЭЙШЫХ.

dialing

ТЭЛЕФОН, УСТАЛЮЙ КАНФЕРЭНЦ-СУВЯЗЬ З ЦІКА КАРТЭСАМ З СУПОЛЦЫ НАНАЛЮДЗЕЙ «ВОСЕНЬСКАЯ ЗАЛЕВА».

ВЫВЯДЗІ НА ТЭЛІК.

ДОБРАЙ РАНІЦЫ.

ЦІКА. ТРАСЦА МНЕ Ў БОК. І МАСКУ ЗА ПЯЦЬ ГАДОЎ НЕ ЗМЯНІЎ... ЦІКА, ГЭТА **СПАЙДАР ЕРУСАЛІМ**.

БОЖА ПРАВЫ, А ВОСЬ ТЫ **ЗМЯНІЎСЯ**. З **ВАЛАСАМІ** ШТО, БРАТКА?

НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК У ДУШЫ. ЯК ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ?

ДЫ ЎСЁ ТАК ЖА. НЕДАРЭЧНАЕ ПЫТАННЕ, СПАЙДАР.

Н-ДА, І ТО ПРАВІЛЬНА. СЛУХАЙ, ЦІКА, МОЖАШ ДАПАМАГЧЫ ПА СТАРЫМ СЯБРОЎСТВЕ?

ЛЁГКА.

СЁННЯ Ў ВАШУ СЯМЕЙКУ ЎЛІВАЕЦЦА ЗАЛЁТНІК МАЁЙ АСІСТЭНТКІ… ЦЬЯНГ… ЯК ЯГО?

**ЦЬЯНГ ХУАЙ.** СПАЧАТКУ Я ХІСТАЎСЯ: У ХЛОПЦА ЦЯГА ДА МЕХАНІЗМАЎ, НЕКАЛІ ЯГО АРЫШТАВАЛІ Ў СУПЕРМАРКЕЦЕ ЗА ТОЕ, ШТО ЁН МАСТУРБАВАЎ НА АЎТАМАТЫЧНЫ ТАВАРАЎКЛАДНІК. АЛЕ, ЗДАЕЦЦА, ХЛОПЕЦ ЁН НЯДРЭННЫ.









ДОБРА, ШЭНАН. ВОСЬ ЯК МЫ ЗРОБІМ. СПАЧАТКУ Я НАКАРМЛЮ ЦЯБЕ ЛАНЧАМ У ТЫМ НЯМЕЦКІМ ШЫНКУ, ДЗЕ, ЯК ТЫ КАЗАЛА, ЦЭНЫ КУСАЮЦЦА, ПОТЫМ ВЕРНЕМСЯ І ПЕРААПРАНЕМСЯ.

Я ЗАСТАНУСЯ ТУТ.

ТОЛЬКІ АПРАНІСЯ ПРЫГАЖЭЙ. ЗАПАМПОЎКІ ЗАЎСЁДЫ ПРАХОДЗЯЦЬ З ВЕЛІЗАРНАЙ ПАМПЕЗНАСЦЮ, А ПЫЛАВІКАМ ПАДАБАЕЦЦА ГЛЯДЗЕЦЬ, ЯК МЫ, ЦЫВІЛЫ, ВЫЗНАЧАЕМСЯ.

ГЭТЫ ТЫП, НУ, КАМУ ТЫ ТЭЛЕФАНАВАЎ... ЁН ПЫЛАВІК?

ЦІКА? НУ ТАК.

А, ВОСЬ ТЫ ПРА ШТО... НЕ, ТОЕ, ШТО ТЫ БАЧЫЛА, НЕ БЫЛО ЯГО **ТВАРАМ**. ТАКІМ ЁН **АБВЫК** ПАКАЗВАЦЦА.

НУ ЎСЁ, ВЫХОДЗІМ. НАС ЧАКАЕ ШТАБЕЛЬ ПЕРАСОЛЕНЫХ РАБРЫНАК ВЫШЭЙ ЗА ТВАЮ ГАЛАВУ І МОРА ПШАНІЧНАГА ПІВА.

ДАМОВІЛІСЯ. ХЛОПЕЦ КІНУЎ МЯНЕ, ПАЙШЛІ ЗАРАЗ, АДЗНАЧЫМ, ЗАБ'ЕМ ДА ЛІХАМАТАРЫ ЎСЕ МАЕ АРТЭРЫІ...

УСЁ ПАЧАЛОСЯ З ГАКА ХАНСА МАРАВЕЦА. ЁН І ПУСЦІЎ ВА ЎЖЫТАК ГЭТА СЛОЎЦА – «**ЗАПАМПОЎКА**».






МАРАВЕЦ НАЙБЕССАРОМНЫМ ЧЫНАМ ПУСКАЎ СЛІНІ НА РОБАТАЎ – ЯКРАЗ ЯК ТВОЙ ЦЬЯНГ, І МЕНАВІТА ТАМУ ЁН СПЫТАЎ СЯБЕ Ў ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЗВЫЧАЙНЫЯ ЛЮДЗІ СУПАКОЙВАЮЦЬ РАНІШНІ СТАЯК.

І ВОСЬ ЁН ПАЧАЎ РАЗВАЖАЦЬ: ЦІ ЗАСТАЕЦЦА ЧАЛАВЕКАМ МУЖЫК З ПРАТЭЗАМ НАГІ?


















НЯСЛАБА, ТАК?

ПОЙДЗЕМ, А ТО ЦІКА ПАЧНЕ ШУКАЦЬ...




ЦІКА!
ЦІКА КАРТЭС!
Я НЕ ПАЙДУ. НЕ ПАЙДУ.


СПАЙДАР, ТАБЕ БЫЦЦАМ КАЖАНА НА ГОРЛА ПРЫШПІЛІЛІ.
ДЫК СТАРАЕМСЯ ТРЫМАЦЬ МАРКУ. А НУ НАМАЛЮЙСЯ ПЕРАД МАЁЙ АСІСТЭНТКАЙ.


ШЭНАН, ЗНАЁМСЯ: МОЙ СТАРЫ СЯБР ЦІКА КАРТЭС.


НУ, ГРУБІЯН ДЗЁЎБАНЫ, ПА-КАЖЫ ТВАРЫК.


ВІНАВАТЫ.
СПАЙДАР НЕ АДРЭКАМЕНДАВАЎ ВАС, МІС...?
ЯРОЎ. ШЭНАН ЯРОЎ. ВЫ... ЭМ...
ВЫ ПАДОБ-НЫ НА ХМАРУ ПЫЛУ.


ВО, ДЗЯКУЙ. ВЫ ТАКСАМА ВЕЛЬМІ МІЛАЯ.
ГЭТА БЫЎ НЕ КАМПЛІМЕНТ.ТЫ ШЭНАН, РАЗМАЎЛЯЙ З ІМ, ЯК З ПЫЛЬ-НЫМ **МЕКСІКАШКАМ**, ДОБРА?

ВАМ ЖА РАНЕЙ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ СУСТРАКАЦЦА ПЫЛАВІКОМ?

...НЕ.

І ГЭТА Ў НАШЫ ДНІ... АДНАК, ПАЧНЕМ З ПРОСТАГА. ДАКРАНІЦЕСЯ ДА МЯНЕ.

КАЗЫТЛІВА.

ГЭТА МАЁ ЭЛЕКТРА-ПОЛЕ.

Я – ГЭТА МІЛЬЯРДЫ ДРАБНЮТ-КІХ МЕХАНІЗМАЎ, ЯКІЯ ЛУНАЮЦЬ У ПАВЕТРЫ. ЯНЫ ЗЛУЧАНЫ ПАМІЖ САБОЙ АТМАСФЕРНЫМІ РАЗРАДАМІ. ЯКРАЗ ЯК ВЫ. ДАВАЙЦЕ ПАКАЖУ...

МІЛЬЯРДЫ ВОСЬ **ТАКІХ ПЫЛІНАК**.

ЯНЫ ДАСТАТКОВА ДРОБ-НЫЯ, КАБ ПЕРАМЯШЧАЦЬ АТАМЫ. ТАКІМІ ЖА НА-ЧЫНЕНЫ МОЙ ДАМАШНІ ЗБІРАЛЬНІК.

ВЫ ЗАСВОЙВАЕЦЕ ПА-ВЕТРА, ЕЖУ І ВАДУ, НА-БЫВАЮЧЫ ПРЫ ГЭТЫМ ЗАПАСЫ СІЛ І ПАЖЫЎНАЕ РЭЧЫВА. Я ЗАСВОЙВАЮ ПАВЕТРА І ЎСЯКАЕ ВЫ-ПАДКОВАЕ СМЕЦЦЕ...

...І АТРЫМЛІВАЮ ЎСЁ, ШТО ПА-ЖАДАЮ.

ГЭТА НЕ ЧАРАЎНІЦТВА. ГЭТА ПРЫЛАДА НА СЛУЖБЕ Ў ЧАЛАВЕКА.













ВОСЬ ГЭТЫ ПАВЕРХ АБАРУДАВАНЫ ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ЗАПАМПОВАК. ХАДЗЕМЦЕ.

ІДЗІ ЗА ГЭТЫМ ДЫМАМ, ШЭНАН. І ЗАПЫТВАЙ КОЛЬКІ ПАЖАДАЕШ; ПАКУЛЬ ВЕЦЕР НЕ ЎСХОПІЦЦА, ЯМУ НЯМА КУДЫ ДЗЕЦЦА.

НУ ШТО, ГЛУПСТВА І ГРУБАСЦЬ У БОК:
МЫ РОБІМ КАЗКУ БЫЛЛЮ, ШЭНАН. УСЁ ВАКОЛ СКЛАДАЕЦЦА З АТАМАЎ, А МЫ, КАБ АТРЫМАЦЬ ЖАДАЕМАЕ, ПРОСТА ПЕРАМЯШЧАЕМ ІХ. ЯК І ЗБІРАЛЬНІК.
ВАМ МАГЛО ЗДАЦЦА, ШТО ЛІЛЕЯ ЎЗНІКЛА З ПАВЕТРА. ТАК І ЁСЦЬ. ЯНА БЫЛА **СТВОРАНА** З ПАВЕТРА.
ЯК І МЫ.
ФІЗІЧНЫХ ПАТРЭБ У НАС НЯМА, МЫ ПРОСТА ЗАБАЎЛЯЕМСЯ. У ЗВЫЧАЙНЫМ ЧАЛАВЕЧЫМ АБЛІЧЧЫ ТАК НЕ АТРЫМАЕЦЦА.
ЦЬЯНГ ЖАДАЕ СТВАРАЦЬ ЦУДЫ І ВЕЧНА ГАРЭЗАЦЬ НА ПРАСТОРАХ ГОРАДА.
ПАСПРАБУЙ ЯГО ЗРАЗУМЕЦЬ.




ЦЬЯНГ, ГЭТА СЁХЭ ГОЛАЎКА. Я БУДУ НАЗІРАЦЬ ЗА ТАБОЙ ПАДЧАС ЗАПАМПОЎКІ.
ГАТОВЫ?


ДА ГЭТАГА Я ГАТОВЫ ЯШЧЭ З ЧАСУ СВАЙГО ПЕРШАГА АРГАЗМУ.
ВЫЦЯГВАЙЦЕ МЯНЕ.


БАЮСЯ, ЁН НЯ ЧУЕ І НЯ БАЧЫЦЬ ВАС. МЫ ЛІЧЫМ, ШТО ВАЖНА ПАДТРЫМЛІВАЦЬ У ЗАПАМПАВАНЫМ ПАЧУЦЦЁ АБМЕЖАВАННЯ.
ТАМ, РАЗАМ З ІМ, НАША СЯБРОЎКА СЁХЭ. ВАМ ЯЕ НЕ РАЗГЛЯДЗЕЦЬ, У РАЗРЭДЖАНАЙ ФАЗЕ ЯНА НЯБАЧНА.
ДЫ І МЯНЕ ВЫ БАЧЫЦЕ ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО Я ЎЦІСНУЎСЯ ДАСТАТКОВА ШЧЫЛЬНА, КАБ НЕ ПРАПУСКАЦЬ СВЯТЛО...


ЗРАБІ ЛАСКУ, ХОЦЬ НА ХВІЛІНАЧКУ ЗАБІ ЗЯПУ!


ЯКАЯ ЯНА ЗАПАЛЬЧЫВАЯ, АДНАК
АД ЯЕ ХЛОПЦА ПА ТОЙ БОК ШКЛА ВОСЬ-ВОСЬ ЗАСТАНЕЦЦА НЯ БОЛЕЙ, ЧЫМ ПШЫК.
ТРЭБА Ж РАЗУМЕЦЬ.


ТЫ МНЕ БОЛЬШ ПАДАБАЎСЯ, КАЛІ ВАЛАСЫ НАСІЎ.
А ТЫ МНЕ БОЛЬШ ПАДАБАЎСЯ, КАЛІ ТАБЕ ПА МОРДЗЕ МОЖНА БЫЛО З'ЕЗДЗІЦЬ.









А ВОСЬ І РОЙ, ЯКІ МЫ ДЛЯ ЯГО ПАДРЫХТАВАЛІ.
АСЕЎШЫ НА ЯГО, РОЙ ПЯРОЙДЗЕ Ў РЭЖЫМ АЎТАНОМНАГА ФУНК-ЦЫЯНАВАННЯ. ЁН ПАЧНЕ ПРАСОЧВАЦЦА СКРОЗЬ СКУРУ І СКАНАВАЦЬ ЯГО ЦЕЛА.


УСЁ ДОБРА. НІЧОГА ЖУДАСНАГА, ХОЦЬ І ГЛЯДЗІЦЦА НЯ ВЕЛЬМІ.




НУ ВОСЬ, КАЛІ ЛАСКА. ЗАРАЗ ЯГО ПРЫТОМНАСЦЬ ЦАЛКАМ СЧЫТАНА З МОЗГУ І РАССЕЯНА Ў РОЕ ПЫЛІНАК.
ЁН АБУДЖАЕЦЦА Ў ІХ.


БАЧЫШ? СТАРОЕ ЦЕЛА НЕ СПАЛЬВАЮЦЬ. ЯГО **ПЕРАПРАЦОЎВАЮЦЬ**.
ЦЬЯНГ ПУСКАЕ Ў ХОД СВАЮ ХІМІЧНУЮ ЭНЕРГІЮ, КАБ ПАДХВОСНУЦЬ ПЫЛІНКУ. ЯК ДОКТАР ДАЕ НОВАРОДЖАНАМУ ПЛЕСКАЧА ПА ПОПЦЫ...

СУСТРАКАЙЦЕ,
ЯГО НЕРВАМІ СТАЛА
МАЛАНКА, ЯГО ЦЕЛА –
НАЙТОНКІ ПЫЛ...




НАКШТАЛТ ЯК ЗА ПЯЦЬ ГАДОЎ ЦЫРЫМОНІЯ ТРОХІ ЗМЯНІЛАСЯ, ТАК?
ВЫПІЎКА, МУЗОН, СВЕЦКАЯ БАЛБАТНЯ – КУДЫ ЎСЁ ДЗЕ-ЛАСЯ? ДЗЕ СВЯТА?
ВОСЬ І ЁН.
МЫ ВЫРАШЫЛІ, ШТО ДЛЯ НАС УСЁ ГЭТА ВЕЛЬМІ **ПА-ЛЮДСКУ.**

ЦЬЯНГ.
ПАГЛЯДЗІ НА СЯБЕ. ТЫ СПАЛІЎ ЗА САБОЙ УСЕ МАСТЫ. НІЧОГА ЎЖО НЯ ВЕРНЕШ.





ПРЫГА-
ЖОСЦЬ.
ДЫ НЯЎЖО? ЦІКА, ШТО
ТАМ ЧЫНІЦЦА?

НУ, Э... КАЛІ ПА СУТНАСЦІ,
НЕ ПАГЛЫБЛЯЮЧЫСЯ Ў
ФІЗІКУ...
...СЁХЭ І ЦЬЯНГ
ЗАЙМАЮЦЦА СЕКСАМ.


OUT
ЦІКА, НУ ВОСЬ ЯКОГА ГАКА ТЫ...
А ТЫ ЖАДАЎ, КАБ Я ЯЕ ЗМАНІЎ?


end